Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год – 6 зл., за паўгоду – 3 зл., за 3 мес. – 2 зл., за 1 мес. – 50 гр.

Год I. Вільня 10 Верасьня 1931 г. № 20

## ДРУГІ БОК МЭДАЛЮ.

Вельмі цікаўная стацьця зьмешчана была нядаўна ў абшарніцкай часопісі „Słowo“ (№ 197 з 29 жніўня с. г.). Стацьця гэтая мае назоў „Nowa wieś“ («Новая вёска») і дае агляд таго, што ў беларускай вёсцы дасягнена Польшчай за колькінаццаць гадоў гаспадараваньня на нашых «крэсах».

Вось як выглядае наша «новая вёска» паводле абшарніцкага органу, каторы малюе яе пад назовам «Нязнанай»:

„У гэтай Нязнанай, новай вёсцы вулка брукаваная, па бакох хаднічкі дзеля пешых. Новых дамоў шмат, крытыя драніцай. Перад імі гародчыкі з краскамі... На вокнах дзе-ня-дзе вісяць фіраначкі, з-за шыбаў — ужо крыху вялікшых — нагінаюцца к сонцу вазончыкі. Падлога замецена, ложкі засланыя, курам уваход забаронены. — Пасярэдзіне вёскі школа, — праўда, нанятая ў гаспадара, але яна ёсьць і шлецъ свае прамяньні („promieniuje“)... Моладзь належыць да розных арганізацыяў, а старэйшыя — мужчыны да розных «кулэк», жанчыны да брацтваў і г. д...

„У вёсцы нехта мае ўжо радыё, нехта — вэлёсыпэд, увечары нехта бліскае «батарэйкай», зажыгалкай, залатым зубам і г. д. Прыезд у вёску таксоўкай не такая ўжо навіна. Цяпер кожная вёска мае свайго шофэра. Вёска паставіла тры громаадводы, мае ахвотніцкую пажарніцкую дружыну ды нават свой аркестр. Драўляныя студні з «поэтычна» скрыпучым жаравам — гэта ўжо перажытак. Цяпер будуюцца толькі каменныя, на вал з ланцугом і дахам. Сёлета завялі ў вёсцы нават электрыку...

„Зямля ў вёсцы скамасаваная, цераспалосіцы ўжо няма. На гэтай зямлі працуюць лепшымі прыладамі... У жніво можна спаткаць дзяўчат у рукавічках. Наагул вёска пераймае цяпер мястовую вопратку (—хаця, як піша далей аўтар стацьці, ня мае кашуляў!...) і насьлядуе места“.

Так выглядае адзін бок мэдалю —

*вонкавае, матэрыяльнае жыцьцё*

вёскі паводле „Słowa“. Як бачым, абшарніцкая газэта малюе яго вельмі прыгожымі фарбамі, хаця і тут, як шыла з мяшка, па-за «залатым зубам» (— паліцыянта ці асадніка!..) вызірае з мужыцкіх хат

*галіта:*

кашуляў ня маюць... Але няхай ужо гэтак будзе ўсё «ідэальна», як хочуць паны абшарнікі. Ды самі-ж яны прымушаны адзначыць і другі бок мэдалю —

*духоўныя ці маральныя вынікі*

польскай цывілізацыйнай працы на беларускіх „крэсах“. Вось гэты бок:

„Маладое пакаленьне любіць поступ — часта можа блага паняты і шкодны. Не назавём, прыкладам, добрым поступам таго, што моладзь

*курыць папяросы*

нават перад старэйшымі,

*п'ець гарэлку*

і г. д...“. А ў выніку гэтыга вось як выглядае сучасная „новая“ маральнасьць у беларускай вёсцы: Правільна пісала ўжо аб гэтым у свой час п. Ромэр-Охэнковска, што чэснасьць вясковыя дзяўчаты лічаць цяпер за забабон. Але: сягоньня перш хрысьціны, а пасьля шлюб — гэта здараецца ўсё часьцей. А бывае і так, што малады хлопец жэніцца да ваеншчыны і, ідучы ў салдаты, пакідае сваю жонку... малодшаму брату...

„Пашырана ў нас і

*фальшывае прысяганьне...*

Цяпер маем многа

*прафэсіянальных*

сьведкаў. Чуў я нават, што ў адней вёсцы існуе

*школа сьведкаў...*“.

Вось абраз

*маральнага стану*

нашае вёскі, ці лепш — абраз

*страшнае дэмаралізацыі*

яе, вынікам чаго ёсьць нязвычайны ўзрост лічбы крымінальных праступкаў, боек і забойстваў, ня кажучы ўжо аб зладзействе, аб фальшывых даносах — праз злосьць або дзеля грошы... „Праменяваньне“ школы, якую нам дае дзяржава, аказываецца бяссільным... І аўтар, б'ючыся ў грудзі, рашуча сцьвярджае, што адказнасьць за гэту „новую вёску“ ляжыць на — польскіх „культуртрэгерах“. Але аўтар не дагаварывае, чаму ўсё гэта дзеецца. За яго дае адказ на першай страніцы таго-ж нумару „Słowa“ ведамы беларусаед п. Студніцкі. Гэты пан ясна і выразна гаворыць аб

*мэтах польскай „цывілізацыйнай місіі“,*

якія нічога супольнага з заданьнямі за-праўднае культурнае працы ня маюць. П. Студніцкі ясна кажа, што Польшча імкнецца да таго, каб

*спольшчыць беларускі народ,*

як некалі спольшчана была беларуская шляхта. І ў гэтым кірунку вядзе сваю працу

*„польская дзяржаўнасьць з сваім школьніцтвам і ваеншчынай“.*

Беларусам даецца

*школа ў чужой мове;*

іх уцягіваюць у

*польскія*

арганізацыі і «кулкі», скуль выгнаны беларускі дух, — і вось людзі патроху губляюць сваё нацыянальнае аблічча, робяцца адступнікамі ад сваей беларускай нацыянальнасьці і наагул падлеюць, бо ці-ж ёсьць горшая подласьць, як рэнэгацтва і прадажа свайго народу?! А беларускае школы, дзе моладзь навучылася-б цаніць сваё роднае, свой народ, сваю мову, свой край, — няма; а беларускія арганізацыі, якія давалі дагэтуль культурнае ўзгадаваньне моладзі, — усе чыста разгромлены... Дык ці-ж дзіва, што пры ўсіх «дабрадзействах цывілізацыі» — ня выключаючы радыя і „залатога зуба“ ды знамянітага выраба пана Бачэвскего — вёска нашая аказваецца

*пазбаўленай душы?!.*

Вось дзе найгоршая балячка нашага вясковага жыцьця, вось дзе прычына таго, што другі бок польскае „цывілізацыйнае місіі“ на Беларускай зямлі аказваецца гэткім жудасным.

*Беларусы, ратуйце сваю душу, ратуйце душу моладзі ад дэнацыяналізацыі, дэмаралізацыі, спадленьня!*

## ЗАБОЙСТВА СТАРШЫНІ КЛЮБУ Б. Б. п. ТАДЭУША ГОЛУВКІ.

29 жніўня ў санаторыі кляштару Базыліянак у м. Трускавец (у Ўсх. Галіччыне) быў забіты ў ложку 6 стрэламі з рэвальвэру ведамы палітычны дзеяч Тадэуш Гошувко. Нябошчык Голувко быў сьпярша адным з самых выдатных ды прыхільных да меншасьцяў пэпэсаў. Пасьля „маёвага перавароту“ кінуў партыю ды перайшоў у лягер Б. Б., дзе таксама горача браў да сэрца справы і інтарэсы меншасьцяў, падыходзячы да іх, зразумела, з пункту гледжаньня інтарэсаў польскай дзяржаўнасьці. Але дзіўная рэч: ні тады, калі П. П. С. мела быццам такі рашучы ўплыў на ўнутраную палітыку Польшчы, ні тады, калі ўжо бясспрэчную поўню ўлады ў дзяржаве здабыў Б. Б., усе гарачыя ды шчырыя, як цьвердзіць уся польская прэса, высілкі нябошчыка Голувкі ня здолелі зрабіць блізу нічога карыснага для меншасьцяў, асабліва-ж якраз для тых, якімі быццам нябошчык апекаваўся найбольш — для ўкраінцаў ды беларусаў. Асабліва-ж гэта датычыць беларусаў, усё нацыянальнае, культурна-асьветнае жыцьцё і праца якіх у Польшчы — пад цяжарам нябывала цяжкіх варункаў звонку ды знутра — занепадае цяпер, як ніколі дагэтуль...

Далучаючы і наш голас да агульнага пратэсту і абурэньня проці агіднага, нялюдзкага акту тэрору, скіраванага да таго-ж, як цьвердзяць усе асабіста знаўшыя нябошчыка, да чалавека добрага і шляхотнага, мы — перад сьвежай магілай — ня станем аднак крывіць душой, ня станем выхваляць нябошчыка за яго дзеяльнасьць у адносінах да беларускага народу ў Польшчы. Замест таго — дамо некалькі кавалкаў з ведамых артыкулаў нябошчыка Голувкі, зьмешчаных у сваім часе ў «Газэце Польскай», якія можна было лічыць зьместам праграмы «беларускай палітыкі ўраду».

### З артыкулаў нябошчыка Т. Голувкі ў „Газэце Польскай“.

Даём — бяз тлумачэньняў — некалькі цытатаў з надрукаваных у свой час у галоўным органе Б. Б. «Газэце Польскай» артыкулаў с. п. Голувкі.

„Ідэалам беларускага селяніна («хлопа»...) ёсьць... польская пачаткавая школа, у якой адначасна навучалі-б і беларускай мовы. А дзеля таго кожны вучыцель (паляк...) пачаткавай школы ў беларускай вёсцы павінен ведаць беларус-

кую мову, павінен карыстацца ёй у першым і другім аддзеле, павінен вучыць чытаць і пісаць па-беларуску“...

„У сэмінарыях вучыцельскіх на „крэсах“ павінна быць зьвернена вельмі значная ўвага на навуку беларускай мовы; трэба прымаць у гэтыя сэмінарыі элемэнт мясцовы, пасьля высылаць ў Варшаву, Кракаў і Познань для заканчэньня ўзгадаваньня і адукацыі, дый для пазнаньня скарбаў польскай культуры“.

„Не падлягае сумліву, што асобныя прыватныя беларускія гімназіі ў Вільні, Наваградку і Клецку — з пункту гледжаньня дзяржаўнага інтарэсу Польшчы — ня ёсьць зьявішча дадатнае, карыснае, а зьяўляюцца толькі... доказам нашай (польскай) нацыянальнай толеранцыі (цярпімасьці“). „Але гімназіі гэтыя змагаюцца з фінансавымі клапотамі, не стаяць на вышыні пэдагагічных трэбаваньняў; з другога боку робяцца вогнішчамі беларускага шовінізму (?), іх вучні часта паддаюцца (?) уплывам камунізму“... „Дык, калі мы ня хочам, каб павялічывалася лічба беларускіх прыватных школаў, мы павінны запэўніць беларускай моладзі... навуку яе уласнай мовы і літэратуры ў школах польскіх“...

„Нам павінна быць вельмі важна, каб выходзячая з польскіх школаў польская інтэлігенцыя на крэсах аставалася тутака на далейшы час. Бо-ж з яе павінна набірацца адміністрацыя, судовыя дзеячы, дактары, аграномы і т. д.“.

„Падчырківаю, што я — рашучы працаўнік «утраквістычнай» (дву-язычнай) школы (польска-беларускай), як недарэчнай з педагагічнага пагляду; наадварот — я стаю за навуку мовы і літэратуры беларускай (у польскай школе)“... — „Лёгічна адсюль выплывае, што я стаю за ўвядзеньне ў Віленскім унівэрсытэце самастойных катэдраў мовы, літэратуры, этнаграфіі і гісторыі беларускага народу. Інакш кажучы, мне ідзе аб тое, каб беларускае дзіця, ідучы ў польскую пачаткавую школу, ды канчаючы польскі ўнівэрсытэт, адначасна мела сьведамасьць, што гэта польская школа на ўсіх ступенях дала яму веду і ў галінах жыцьця і гісторыі яго народу“.

„Украінскае грамадзянства ў Усходняй Малапольшчы імкнецца сягоньня да стварэньня зачыненага ў сабе грамадзкага арганізму. Мае ўласную эканамічную арганізацыю з дасканала працуючымі коопэратыўнымі банкамі, коопэратывамі сельска-гаспадарчымі і спажывецкімі, якія не патрабуюць ад нас крэдытаў, бо атрымліваюць крэдыт на танейшых варунках з Бэрліну. Ці гэта ўсё ёсьць у інтарэсе польскай дзяржаўнасьці?!..

„Дык вось, калі мы ня хочам, каб усё гэта паўтарылася ў адношаньні да беларускага насяленьня, ня будзем паўтараць памылак, тым больш, што мы маем зноў уласную дзяржаўнасьць. А дзеля таго мы павінны беларускі народ заклікаць да чыннага ўчасьця... і супрацоўніцтва ўва ўсіх грамадзкіх, эканамічных і культурных арганізацыях..., найахватней вітаючы ў сваіх радах (у польскіх арганізацыях) элемэнт беларускі“.

„Толькі на гэтым шляху супрацоўніцтва польскага чыньніка з беларускім мы можам проціставіцца імкненьням нацыянальнага, культурнага і гаспадарчага сэпаратызму (адасабленьня)... Але дзеля гэтага канешна патрэбны яшчэ адзін варунак — каб у польскім грамадзянстве ня было адносна да беларускага народу ані няпрыязьні, ані лёгкаважаньня, а тым больш — пагарды і ненавісьці. А ў гэтым адношаньні шмат шкодаў нарабіў у нас наплывовы чыноўніцкі элемэнт, асабліва паходзячы з Усходняй Галічыны, які ўсю сваю ненавісьць да ўкраінцаў дый свойскія спосабы барацьбы з імі хоча тасаваць да беларускага народу, а асабліва — да яго нячысьленай інтэлігенцыі“.

„Усё тое, што мае мэтай ахоўваньне ды разьвіцьцё беларускай мовы, гісторыі, літэратуры, этнаграфіі, народнага мастацтва, — павінна быць з боку Польскай Дзяржавы акружана зычлівасьцяй дый выдатнай помачай. Так, напрыклад, Беларускі Музэй у Вільні ёсьць цэнным укладам у агульную культуру Польскага Гаспадарства, а таму павінен мець апеку ды ахову з боку Дзяржавы. Усялякая нават праца, якая мае мэтай арганізаваньне беларускага жыцьця пад лёзунгам нацыянальнага сэпаратызму (?), калі толькі не зьмяшчае ў сабе элемэнтаў процідзяржаўных, павінна быць дапускана, дый ня трэба ей ствараць ніякіх штучных, чыста адміністрацыйных перашкодаў. Хочуць закладаць прыватныя беларускія школы — пачаткавыя ці сярэднія, ня будзем чыніць ніякіх перашкодаў. Хочуць закладаць чыста беларускія банкі, спажывецкія коопэратывы, культурна-спартовыя, эканамічныя арганізацыі, — ня будзем стаўляць таксама ніякіх перашкодаў, каб толькі яны ня былі прыкрыцьцём для процідзяржаўнай, ці проста камуністычнай прапаганды“... — Хай жа ж беларускі народ толькі пераканаецца, што мы разглядаем яго, як супольнага гаспадара, што мы хочам поруч з ім уздымаць край наш культурна і гаспадарча“.

„Усё гэта — тым больш важна і пільна, што там — за гранічным кардонам — існуе таксама рух беларускі, маючы да сваіх услуг Беларускі Унівэрсытэт, Акадэмію Навук, беларускае школьніцтва, беларускую мову ў урадавых установах, адным словам — усё тое, што месьціцца ў паняцьці Беларускай Радавай Рэспублікі“... „Дык вось — ідзе аб тое, каб Менск дый усё гэтае ня дзеяла прыцягіваючы на беларусаў у Польшчы. Але, каб так было, я ня бачу іншага шляху, як той, каб беларускі рух у Польшчы меў свой уласны асяродак, узрастаў ды разьвіваўся... на дрожджах польскай культуры, гэта значыць — на шляху цеснага супрацоўніцтва з польскім грамадзянствам — пад аховай польскай дзяржаўнасьці, якая дасьць беларускаму руху элемэнты і падставы заходня-эўрапэйскай культуры“...

Ведама ж і ясна, што далёка ня ўсе гэтыя пляны ды пажаданьні нябошчыка Голувкі можа прыняць сьведамы беларус, але, з другога боку,— ці-ж хаця штоколечы з гэтай так красамоўна нарысаванай аўтарам «беларускай палітыкі» Польшчы выконываецца яе ўрадам, праводзіцца ў жыцьцё яе ўрадоўцамі на мясцох?!.

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## Польшча.

### Украінскае грамадзянства аб забойстве Т. Голувкі.

Прэзыдыум Украінскага Нацыянал-Дэмакратычнага Аб'яднаньня („УНДО“) апублікаваў адозву, у якой асуджае бязумоўна акт палітычнага тэрору, дакананы на асобе Т. Голувкі — не зважаючы на тое, хто зрабіў гэтае праступленьне. Адначасна ў органе „УНДО“ — газэце «Діло»—зьмешчаны артыкул, які таксама асуджае— з прычыны забойства Т. Голувкі — палітычны тэрор.

Тое самае зараз-жа па забойстве — зрабіў і прэзыдыум украінскага соймавага клюбу.

### Што рыхтавалася для Усходняй Галічыны.

Польскія газэты пішуць, быццам у кіруючых колах паважна распрацоўваўся праект стварэньня з 3 усходня-галіцыйскіх ваяводзтваў вялікшай аўтаномнай (самастойнай) адзінкі—з сваім правінцыяльным Соймам — падобна да верхнесілескага. Нябошчык Голувко меў якраз заняць становішча ўсходня-галіцыйскага ваяводы ці „дэлегата ўраду“. Забойства яго пакуль-што спыніла падрыхтаваўчую працу.

Як ведама, Польшча абязалася перад „радай паслоў“ вялікіх дзяржаваў увясьці ў Усх. Галічыне аўтаномію, дык у гэтых вестках няма нічога дзіўнага. Хадзілі нават чуткі аб такой-жа аўтаноміі для Зах. Беларусі і — з тым-жа Голувкай на чале!

Чаго толькі не гавораць...

### Недарэчны помысл.

Некаторыя быццам «санацыйныя» газэты высунулі новы праект, каб — з дзяржаўных урадоўцаў, звольненых па ўсей Польшчы, стварыць новыя кадры... асаднікаў — на «вольныя землі» на ўсходніх «крэсах»... Такім чынам былі-б адным стрэлам забіты два зайцы: і забясьпечаны матэрыяльна звольненыя ўрадоўцы і паднята агульная культура, участцы ўзмоцнена польскасьць на «крэсах»... Але само польскае грамадзянства, здаецца, ужо пераканалася ў вартасьці і карысьці для дзяржавы традыцыйнай асадніцкай палітыкі, банкрутуючай на нашых вачох дарэшты.

Дык вось орган саміх аб'яднаных урадоўцаў «Jutro Pracy» найлепш крытыкуе гэты запраўды-ж недарэчны праект. — Калі-б нават, піша ён, самі былыя ўрадоўцы пайшлі на рызыку ўзяцца за сельскую гаспадарку, якой большасьць іх зусім ня ведаюць, дык трэба-ж падумаць аб тым, як спаткаюць гэтых нязваных гасьцей беззямельнікі ды малазямельнікі на мясцох, якім даўно ўжо цесна на вёсцы.. «Колькі-б пайшло адсюль слушных пратэстаў, забурэньняў, авантураў, гвалтаў, колькі новай ненавісьці выбухла-б да гэтых павасёлаў... У рэзультаце — слабейшыя зараз-жа ўцяклі-б назад у месты, а сільнейшыя асталіся-б крыху даўжэй, каб — праз год ці два ўсё-ж быць змушанымі ўцячы з вёскі»... «Такім чынам — у выніку выкананьня недарэчнага ды небясьпечнага праекту — толькі-б больш павялічалася сума нездаволеньня ды ненавісьці ў краі»...

Трэба дадаць, памінаючы гэтыя бясспрэчныя крыўды для абодвух бакоў, што на самае выкананьне гэтага дзікага праекту патрэбны перад усім вялізарныя грошы, якіх дзяржава, змушаная крызісам да асаблівай ашчаднасьці, якраз і ня мае. Бо-ж асадніцтва, гэта — вельмі і вельмі каштоўная забаўка, як добра ведае гэта дзяржаўны скарб Польшчы ды яе платнікі падаткаў.

### „Трагэдыя Голувкі“.

Пад такім загалоўкам зьмяшчае вельмі характэрную стацьцю ў «Работніку» ведамы польскі публіцыст, былы віцэ-прэм'ер п. Станіслаў Тугутт.

Аўтар бачыць „трагэдыю Голувкі“ у тэй супярэчнасьці, у якой апынуліся яго „асабістыя шляхотныя пагляды“ з тымі „дзеяньнямі, якія сучасная сыстэма ўпраўленьня краем дазваляла даконываць іншым дзеячом пануючага ўраду“, — дзеяньнямі, якія — „разбівалі ў зародку шляхотныя намеры нябошчыка“. „Выступаць з прапазыцыямі „угоды“ з украінцамі — назаўтра пасьля так зв. „пацыфікацыі“ (хваля нячуваных ваенна-паліцэйскіх рэпрэсіяў у Галічыне) — было-б, хіба-ж, крыху перадчасна, калі запраўды імкненьне да „угоды“ было паважным і шчырым. У ўкраінскім народзе ўспаміны аб гэтай „пацыфікацыі“ залішня яшчэ сьвежыя ды балюча-пякучыя“... Але аўтар цалком сумляваецца якраз у шчырасьці гэтага імкненьня да „ўгоды“ — з абодвух бакоў... — „Не падтрыманая адкрыта ані аўтарытэтам польскага ўраду, ані сьведамай воляй украінскага народу, гэтая „угода“ наагул не магла мець ніякай вартасьці, а перад усім — для дзяржаўных інтарэсаў Польшчы“...

„Дык і знайшоўся нейкі „трыбунал“, які падпісаў прысуд сьмерці чалавеку непавіннаму ў гвалтах, чалавеку добрай волі — дзеля страху, каб ён не спакусіў ды не пацягнуў украінскага народу на гэтую фальшывую ўгоду. Мэта гэтага тэрорыстычнага акту — зусім ясная: трэба было так паглыбіць ды пашырыць процьму, дзелячую ўжо абедзьве стараны: украінскі народ і польскае грамадзянства, каб ужо ніякая добрая воля не магла працягнуць руку праз гэтую процьму дзеля паразуменьня“...

Агідны зьверскі акт тэрору, кажа аўтар, прыводзіць на памяць страшэнныя рэзьні казацкіх войнаў (17 веку), калі рэзалі адзін аднаго, не разьбіраючы вінаватых... „Але, дадае аўтар, казацкія войны былі ўступам да ўпадку Польшчы, пакінуўшы і ўкраінскаму народу горкую долю (канец казацкай волі—пад рукой Масквы...). А таму трагэдыя Голувкі, — канчае вельмі трафна аўтар, — вырастае да разьмераў трагэдыі польскага народу“.

——

Мы падалі вышэй — без усялякіх тлумачэньняў — адрыўкі з таго артыкулу няб. Голувкі, які санацыйная прэса лічыла „нарысам праграмы беларускай палітыкі ўраду“. Мы сумысьля зусім аб'ектыўна падалі думкі, прапазыцыі і пляны няб. Голувкі, стаўляючы іх запраўды дэмакратычна-шляхотныя, падыктаваныя сымпатыяй да нацыянальнай асобы і душы беларускага народу, побач з тымі „спрытнымі“, „тактычнымі“ крокамі, якімі нябошчык Голувко меў надзею паслужыць толькі польскай дзяржаўнасьці, як ён разумеў, коштам душы і цела беларускай нацыі. Дапаўняючы трафныя ўвагі п. Тугутта, можна сказаць, што «трагэдыя Голувкі» зьмяшчалася якраз у тым, што з нарысаванай ім «праграмы беларускай палітыкі» сучасны ўрад, як і ўсе папярэднія ўрады — бяз розьніцы партыйнай іх ахварбоўкі — зьдзейсьняў, праводзіў у жыцьцё адносна да беларускага народу толькі тыя «тактычныя крокі», якія маюць на мэце зьліквідаваньне нацыянальнай самастойнасьці, расклад нацыянальнай асобы і душы беларускага народу, але затое пакідаліся зусім бяздзейнымі, асталіся толькі спакушаючым «слоўным прыборам», зусім не абавязваючымі «кветкамі красамоўства» ўсе тыя запраўды шляхотныя думкі ды рады нябошчыка, якія маглі быць запраўды-ж падыктаванымі шчырай сымпатыяй да беларускага народу, калі-б за імі йшлі факты і ўчынкі, праводзючыя іх у жыцьцё... Дык вось у гэтым, як лёгка зразумець, і зьмяшчалася запраўдная «трагэдыя Голувкі». Але, як бачым, у гэтай запраўднай «трагэдыі Голувкі» супярэчнасьць зьмяшчаецца ня толькі вонках асобы няб. Голувкі, як даводзіць п. Тугутт, але і ўнутры самога няб. Голувкі, якога апошні лічыць «найбольш шчырым» з усіх прыхільнікаў нац. меншасьцяў сярод польскага грамадзянства...

Дык — калі п. Тугутт слушна кажа, што «трагэдыя Голувкі» ёсьць і «трагэдыяй сучаснай Польшчы», дык можам з свайго боку дадаць, што тым больш «трагэдыя Голувкі» ёсьць у значнай меры і трагэдыяй беларускага народу ў Польшчы.

## Справа транзыту праз Польшчу ў Літву.

Літоўскі дэлегат падаў Трыбуналу абшырную заяву, выкладаючую пункт гледжаньня Літвы. Літоўскі ўрад у ёй заяўляе, што, пакуль Літва не атрымае ад Польшчы сатысфакцыі за замах, дакананы яе арміяй на цэласьць Літоўскай дзяржавы, які выразіўся ў захапленьні Віленшчыны — проці пастановы Лігі Нацыяў і падпісанай Польшчай умовы ў Сувалках, датуль інтарэсы Літвы трэбуюць, каб паміж Польшчай і Літвой ня было камунікацыі (?). Апроч таго, кажа заява, ніякія міжнародныя трактаты не вымагаюць, каб Літва адчыніла рух на лініі Ляндварова—Кашадары.

Пішучы аб гэтай заяве, літоўскі афіцыёз дадае, што ніякая пастанова Гааскага Трыбуналу ня зьменіць пагляду і пастановы Літвы.

# Заграніцай.

## Адстаўка ўраду Партыі Працы і новы ўрад Мак-Дональда.

Англія цяпер перажывае адзін з найцяжэйшых пэрыядаў сваей гісторыі: перажывае нябывалы гаспадарчы і палітычны крызіс. Работніцкі ўрад Партыі пр цы на чале з Мак-Дональдам, ня маючы ў парляманьце большасьці, аказаўся няздольным вясьці самастойна змаганьне з гэтым крызісам і быў прымушаны падацца ў адстаўку. Але і буржуазныя партыі — кансэрватары і лібэралы, зваліўшы работніцкі ўрад, самі ўхіліліся ад тварэньня ўраду і прыняцьця на сябе адказнасьці ў такіх страшэнна цяжкіх варунках. Дык урэшце ўтварыўся асаблівы кампраміс: сфармаваўся новы ўрад, зложаны быццам з усіх трох партыяў, як у часе вайны. На чале ўраду стаў той-жа Мак-Дональд.

Але ўсьлед за гэтым пайшлі далейшыя падзеі. Большасьць міністраў старога ўраду Мак-Дональда адмовіліся вярнуцца ў яго другі ўрад. За імі большасьць Партыі Працы і Трэд-Юніонаў (прафэсіянальных саюзаў) адмовіліся падтрымліваць Мак-Дональда і тых некалькіх міністраў, якія асталіся ў яго новым урадзе. Такім чынам работніцкія арганізацыі адклікалі сваіх прадстаўнікоў з ураду, які гэтак страціў дэлегацыю работніцкай клясы. Лідэр работніцкай партыі Мак-Дональд апынуўся выразна прэм'ерам ураду, зложанага з дзьвюх буржуазных партыяў Англіі. Такога скандалу ў Англіі яшчэ ня было...

Зразумела, што ўсе работніцкія арганізацыі рашуча запратэставалі проці такога надужыцьця іх «фірмы», трэбуючы, каб Мак-Дональд і яго міністры, выбраныя работніцкімі галасамі, вярнулі, як вымагае палітычная мараль, свае мандаты ў рукі выбаршчыкаў. З другога боку буржуазныя колы Англіі, як і частка больш умяркаванай работніцкай клясы, хваляць Мак-Дональда за тое, што ён «свае клясавыя аднабокія сымпатыі прынёс у ахвяру вялікім агульна-нацыянальным задачам», пастанавіўшы надалей працаваць на дабро ўсяго краю...

Палажэньне прэм'ера ўраду ў парляманце будзе ў кожным разе вельмі цяжкое. Дык можна думаць, што новы ўрад ня будзе мець даўгога жыцьця. Мак-Дональд сам ужо заяўляе, што хутка цалком адыйдзе ад палітычнага жыцьця.

Апошняя вестка кажа, што новы коаліцыйны ўрад Мак-Дональда, маючы ратаваць край ад гаспадарчай катастрофы, павялічыў лічбу міністраў з віцэ-міністрамі да 50. З іх да Партыі Працы належаць (?) толькі 8, рэшта партфэляў падзелена паміж консэрватарамі (30!) і лібэраламі (12).

## Справа нямецка-аўстрыяцкай мытнай уніі.

6 верасьня Міжнар. Трыбунал у Гаазе — большасьцю 8 галасоў проці 7 — прызнаў мытную ўнію паміж Аўстрыяй і Нямеччынай нязгоднай толькі з умовай Аўстрыі з дзяржавамі — крэдытаркамі 1922 г., але ня супярэчнай С.-Жэрмэнскаму трактаку 1919 г.

Такім чынам пагляды «об'ектыўных» праўнікаў падзяліліся блізу на палову... Францыя перамагла. Бо-ж — зразумела — усялякае «права» ёсьць ў значнай меры «арганізаваная ды зафіксаваная сіла». Такім чынам прысуд Трыбуналу Міжнароднай Справядлівасьці ёсьць акт таксама палітычны, як і пастанова Лігі Нацыяў...

Міжнародны Трыбунал толькі 5 верасьня афіцыяльна абвясьціў гэту сваю рэзалюцыю. Але йшчэ да гэтага абвяшчэньня стала ведама, што пастанова Гаагскага Трыбуналу Справядлівасьці прызнала „пратакол" супярэчачым з трактатам, падпісаным Аўстрыяй. Дык ужо 3 верасьня на паседжаньні „пан-эўрапэйскай камісіі" Лігі Нацыяў сьпярша дэлегат Аўстрыі Шобэр, а за ім Курцыус заявілі — у блізу аднолькава зрэдагаваных дэкляррацыях, што — незалежна (?) ад прысуду Гааскага Трыбуналу ўрады Аўстрыі і Нямеччыны ня маюць намеру ісьці далей па шляху гаспадарчага аб'яднаньня толькі гэтых двух краёў, бо камісія паставіла справу шырэй, праектуючы мытнае аб'яднаньне ўсей Эўропы.

Француская прэса бачыць у гэтай быццам поўнай капітуляцыі нямецкага і аўстрыяцкага ўраду — поўную перамогу Францыі. У Нямеччыне і Аўстрыі поўнае паражэньне ў гэтым бачаць толькі органы апазыцыі. Урадавая прэса, наадварот, бачыць у дэкляряцыях Шобэра і Курцыуса — „найлепшы выхад з цяжкога палажэньня", спрытны кампраміс, які лоўка абмінуў трэбаваньне Францыі — зрачыся аб'яднаньня назаўсёды. Сіла Францыі цяпер — у тым, што яна мае патрэбныя для Аўстрыі грошы. Слабасьць францускай пазыцыі — у тым, што тое „агульна-эўрапэйскае" гаспадарчае аб'яднаньне, якое высоўвае Францыя, ёсьць рэч блізу нерэальная, а таму і не заступіць і ня перашкодзіць цалком рэальнаму і дасьпяваючаму пляну гаспадарчага злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай, якое, зразумела, адкладаецца толькі пад націскам сучаснай францускай грашова-ваеннай гэгемоніі Францыі ў Эўропе.

## Паразуменьне паміж Ватыканам і італіянскім урадам.

Пасьля страшэнна вострага канфлікту паміж Рымскім папай і фашыстаўскім урадам, калі здавалася ўжо, быццам дойдзе да канчальнага разрыву, і папа пагражаў нават... выездам з Рыму, гэтымі днямі дайшло ізноў блізу да поўнага паразуменьня між абодвума праціўнікамі.

Фашыстаўскі ўрад адчыняе зачыненыя ім арганізацыі „каталіцкай акцыі" — пад варункам, што яны будуць падлягаць беспасярэдня біскупам, што на іх чале ня будуць стаяць асобы належачыя да апазыцыі, дый што наагул „каталіцкая акцыя" ня будзе зусім займацца палітыкай, ня будзе мець мэтаў прафэсіянальнага аб'яднаньня працаўнікоў, ані нават мэтаў спартова-гімнастычных!..

Заздросны фашызм — у трывозе за сваю ўладу — баіцца нават „каталіцкай гімнастыкі", з якой могуць яшчэ спарадзіцца ці адрадзіцца палітычныя партыі!..

# Югаславія.

Як ведама, у пачатку 1929 г. югаслаўскі кароль зрабіў „пераварот" — разагнаў парлямант, скасаваў констытуцыю (на вернасьць якой прысягаў...), пагвалціў „урачыста" падпісаныя міжнародныя трактаты, гарантаваўшыя самастойнасьць усім народам, увайшоўшым у склад новага „каралеўства Сэрба-Харвата-Славенскага", бо-ж на гэтых варунках вялікія дзяржавы, перамогшыя ў вайне, далі сэрбскаму каралю гэтыя народы пад руку. Урэшце кароль, „адказны" ужо толькі „беспасярэдня перад Богам", як даваенныя манархі „з Божай ласкі", скасаваў нават дадзены вялікімі дзяржавамі яго шмат-народнаму каралеўству назоў, замяніўшы яго „пустым" назовам: „Югаславія"...

3 гады іcнавала гэтая каралеўска-фашыстоўская дыктатура ў шмат пакутнай краіне. Галоўнай мэтай гэтая дыктатура ставіла сабе скасаваньне ды выкараненьне да рэшты ўсялякай самастойнасьці паасобных народаў у краі каралеўства дый усялякага партыйна-арганізаванага палітычнага жыцьця гэтых народаў. Кароль, апіраючыся на сэрбскую ваенна нацыяналістычна-цэнтралістычную групу сваіх найбліжэйшых прыхільнікаў, пачаў як зямлю, „пераворываць", ды перамешываць, як карты, перарэзываць на „сечку" грамадзянства ўсіх трох галоўных народаў краю. Каб не спаткаць арганізаванага адпору з боку гэтых грамадзянстваў, былі „завешаны" усе так званыя „констытуцыйныя гарантыі" — усе асабістыя ды грамадзкія свабоды ды правы, разагнаны, як сказана парлямант і пачалася кіраваная аднэй толькі „каралеўскай воляй ваенна-паліцейская перабудова дзяржаўнага і грамадзкага ладу" у краі — каб зрабіць з яго трох, захоўваўшых нават пад аўстрыякам самастойнасьць і дзяржаўны самаўрад краеў і народаў — „адналітае каралеўства"...

Што рабілася за гэтыя чорныя тры гады ў „Югаславіі", аб гэтым ня трэба казаць... Трэба толькі дадаць, што каралеўскі ўрад асабліва пільна сачыў, каб праз цэнзуру ды праз ваенна-паліцэйскі кардон на граніцы не праскочыла ані водная праўдзівая вестка пра тое, што робіцца ў краі...

І вось — цяпер ідзе вестка, быццам „новая констытуцыя" для каралеўства ўжо — за тры гады... — гатова, дык рада міністраў пастанавіла — „спыніць ужо дыктатуру" і ўвясьці ў жыцьцё гэтую „констытуцыю". Новая констытуцыя прадбачыць парлямант — з 2 палатамі... 4 верасьня меў быць ужо апублікаваны і каралеўскі дэкрэт аб новых выбарах.. Які гэты будзе „парлямант" дый якія „выбары", можна добра сабе прадставіць.

## ГРАМАДЗЯНЕ!

**Пішыце ў сваю газэту аб жыцьці нашае вёскі і гораду.**

## АРСЕНЬ КАНЧЭЎСКІ.

З Менску прыйшла сумная вестка: у часе бытнасьці ў нейкім курорце ўтапіўся купаючыся ведамы ў Зах. Беларусі малады беларускі дзеяч, **Арсень Канчэўскі.**

Нябожчыка добра ведала беларускае грамадзянства з яго колькігадовае працы на ніве коопэрацыі — у цэнтралі Саюзу Коопэратываў у Вільні. Адначасна ён прымаў чыннае ўчасьце ўва ўсіх галінах беларускае грамадзкае працы, выклікаючы гарачую сымпатыю з боку ўсіх, каму даводзілася з ім працаваць. За свой соцыяльны радыкалізм быў арыштаваны і засуджажы на некалькі гадоў катаржнае турмы, якая падкапала яго слабое здароўе. Выйшаўшы на волю і ня маючы магчымасьці ўстроіцца ў Вільні, каб далей тут рабіць беларускую работу, Канчэўскі выехаў на Ўсход. Стуль доля ня судзіла яму ўжо вярнуцца ў родную Вільню.

# У С. С. С. Р.

## «Начны штурм на збожжа».

Радавая прэса страшэнна абураецца на ўкраінскіх „калгасьнікаў" — за паўсюднае — укрываньне збожжа. Справа ў тым, што вольныя сяляне дый асабліва калгасьнікі ў начы „раскрадаюць" збожжа з палёў дый хаваюць яго ў розных сховах. Напрыклад — у аднэй з найвялікшых сельска-гаспадарчых камунаў імя самога „Ільіча" калгасьнікі стварылі для гэтай мэты — на камуністычны ўзор — спэцыяльную „брыгаду"... Дык — каб хутчэй сабраць ураджай, радавыя ўлады наладзілі так званы „начны штурм на збожжа", ці прымусовую масавую працу грамадой насяленьня цэлага раёну над зборам ураджаю — пад палкай агентаў Г. П. У.

## «Скуткі 5-леткі трэба будзе лячыць 50 гадоў»...

Цікаўна піша аб „пяцілетцы" ведамы амэрыканец, прыхільнік Саветаў, духоўны настаўнік сэкты баптыстаў — Джон Холмс.

Холмс кажа, што пяцілетка будзе зьдзейсьнена, але... коштам канчальнага развалу ўсяго гаспадарчага жыцьця Саветаў. „Поступ" разьвіцьця прамысловасьці ад 1922 г. да 1931 г. — проста б'е ў вочы. Але вось толькі — драбяза: людзям жывецца ўсё цяжэй і цяжэй, — варункі жыцьця сталіся проста немагчымыя.

Холмс хваліць чыгункавы рух у Саветах, але дадае толькі, што... такога бруду, як у вагонах ды на вагзалах, ён ня бачыў нідзе і ніколі на сьвеце...

Пяцілетка, кажа Холмс, будзе зрэалізавана. Толькі вось — драбяза: фарсаванае, прымусовае, з дрэнных матэрыялаў, дакладаючы галовамі работнікаў, выкананьне „пляну" будзе толькі на паказ. А пасьля выкананьня 5-леткі трэба будзе новага гаспадарчага пляну на 50 гадоў працы, каб давясьці да парадку ўсю тую блутаніцу, увесь той хаос, якіх наробіць шалёна прысьпешаная, недарэчная — напаказ ды назаказ – праца па выкананьню пяцілеткі... Вялікія заводы й фабрыкі будуць дабудаваны ў тэрмін. Але можна быць пэўным, што ані воднае кола на гэтых фабрыках ня будзе круціцца"... „Я бачыў вялізарную цукроўню, якая ўжо 2 гады стаіць бяз руху, бо — няма сыр'я для яе працы".

# Кітай — Карэя — Японія.

## Крывавыя канфлікты паміж кітайцамі і карэйцамі.

Паміж катайцамі і карэйцамі страшэнна завастрыліся стасункі. Дайшло да крывавых пагромаў карэйцаў у Манжурыі і кітайцаў у Сэулі (сталіца Карэі). Крывавыя падзеі «спрытна» — па-англійску — падрыхтаваны японцамі, якія такім шляхам забясьпечываюць сабе панаваньне ў Манжурыі. Справа — у тым, што японцы, якія данядаўна самі масава сяліліся ў Манжурыі, цяпер зьмянілі тактыку: яны высылаюць туды масава каляністаў-карэйцаў, якія лягчэй, чым прывыкшыя да вышэйшай платы ды лепшага жыцьця японцы, канкуруюць як работнікі, з кітайцамі. Такім спосабам японцы забіваюць адным стрэлам двух зайцаў: звальняюць для сябе мейсцы ў заваяванай імі Карэі і падрыхтоўваюць у будучыне для сябе-ж захоп Манжурыі. Новая тактыка японцаў дала ўжо «добрыя» рэзультаты. Кітайскія работнікі ў Манжурыі страшэнна зьне-

